ISSN 2351-6658
ISSN (ONLINE) 2351-6666

# ПАЛІТЫКА БЕЛАРУСКІХ НАЦЫЯНАЛЬНЫХ ПАРТЫЙ І ПРАБЛЕМА САМАВЫЗНАЧЭННЯ БЕЛАРУСІ ВА ЎМОВАХ ПОЛЬСКА-САВЕЦКАЙ ВАЙНЫ (1919–1921 ГАДЫ)

ЮЛІЯ ФЕДЗЯНІНА

***Анатацыя:*** У артыкуле аналізуецца дзейнасць беларускіх нацыянальных партый па вырашэнні беларускага нацыянальнага пытання ў абставінах польска-савецкага канфлікту.

***Ключавыя словы:*** Беларусь, Польшча, польска-савецкая вайна, беларускія нацыянальныя партыі, самавызначэнне Беларусі.

# THE POLICY OF BELARUSIAN NATIONAL PARTIES AND THE PROBLEM OF SELF-DETERMINATION OF BELARUS IN THE CONDITIONS OF THE POLISH-SOVIET WAR (1919–1921)

***Abstract:*** The article is devoted to the activities of Belarusian national parties in the decision of the Belarusian national question in the context of the Polish-Soviet conflict.

***Keywords:*** Belarus, Poland, Polish-Soviet War, Belarusian National Parties, Self-Determination of Belarus.

Нацыянальна-палітычны рух на тэрыторыі Беларусі ва ўмовах польска-савецкай вайны быў прадстаўлены Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыяй, Беларускай партыяй сацыялістаў-федэралістаў, Беларускай партыяй сацыялістаў-рэвалюцыянераў. Беларускія сацыял-дэмакраты ўвесь час ваенных дзеянняў разглядалі беларускія землі як месца барацьбы з бальшавікамі. Лідары партыі Аркадзь Смоліч, Антон Луцкевіч, Язэп Лёсік, Сымон Рак-Міхайлоўскі, Алесь Прушынскі былі сярод тых беларускіх палітычных дзеячаў, якія падтрымлівалі ідэю Юзэфа Пілсудскага наконт федэрацыі беларускіх зямель з Польшчай (Материалы...: арк. 5). Супрацоўніцтвам з польскай уладай сацыял-дэмакраты разлічвалі дамагчыся ад апошняй перадачы ўлады Радзе Беларускай Народнай Рэспублікі. 25 красавіка 1919 года дэлегацыя беларускіх сацыял-дэмакратаў, якую ўзначаліў Павел Аляксюк, накіравалася ў Варшаву для перамоваў з польскім урадам. Мэтай гэтай дэлегацыі было дамагчыся прызнання Рады БНР. У мемарандуме, які быў падрыхтаваны Антонам Луцкевічам, было абгрунтаванне таго, што беларускі народ гатовы да стварэння сваёй дзяржавы і што менавіта БНР з'яўляецца прадстаўніком беларускага народа, у выніку чаго неабходны ўдзел дэлегатаў БНР у мірнай канферэнцыі дзеля абароны інтарэсаў беларускага народа. Напрыканцы ваенных дзеянняў, страціўшы надзею на дапамогу з польскага боку, партыя беларускіх сацыял-дэмакратаў працягвала выступаць у апазіцыі да бальшавікоў, дамагаючыся вываду чырвоных войск з беларускіх тэрыторый і перадачы ўлады Устаноўчаму сходу.

Самай галоўнай уплывовай сілай у нацыянальна-дэмакратычным руху, якая магла паўплываць на ход палітычных падзей, з'яўлялася партыя беларускіх сацыялістаў-рэвалюцыянераў. Пад уплывам беларускіх эсэраў 9–12 чэрвеня 1919 года адбыўся Беларускі з'езд Віленшчыны і Гродзеншчыны, удзельнікі якога выказаліся за адраджэнне літоўска-беларускай дзяржавы ў межах былога Вялікага Княства Літоўскага. Удзельнікі з'езда выказвалі ўхвалу працы беларускай місіі на Парыжскай мірнай канферэнцыі па абароне незалежнасці і непадзельнасці БНР, лічыўшы, што справа гэта ёсць справа ўсяго беларускага народа, які абараняе свае нацыянальныя інтарэсы (Архівы БНР, 1998: 356). Восенню 1919 года беларускія эсэры зрабілі заяву ў сваёй рэзалюцыі, што партыя беларускіх сацыялістаў-рэвалюцыянераў будзе праводзіць у жыццё Трэцюю Устаўную грамату, якая абвясціла незалежнасць Беларусі (Ладысеў і Брыгадзін, 1999: 64). У кастрычніку 1919 года беларускімі эсэрамі была зроблена спроба ўсталяваць адносіны з польскімі сацыялістамі і атрымаць ад іх падтрымку. Палута Бадунова наведала Варшаву, дзе сустракалася з членамі фракцыі ППС у польскім сейме. У сваёй прамове яна патрабавала прызнаць незалежнасць Беларусі ў яе этнаграфічных межах, прызнаць

Раду БНР адзіным краявым органам, абраным па волі беларускага народа на Усебеларускім кангрэсе і перадаць у распараджэнне Рады падрыхтоўку ўсеагульнага Устаноўчага сейма. 20 сакавіка 1920 года беларускія эсэры выступілі з новай дэкларацыяй па палітычным і сацыяльным становішчы Беларусі. У дэкларацыі заяўлялася аб неадкладным вывадзе ўсіх войскаў з тэрыторыі этнаграфічнай Беларусі і прызнанне яе незалежнасці, прызнанне як Масквой, так і Польшчай права беларускага народа самастойна вырашаць пытанне аб саюзе з суседнімі дзяржавамі і ўстанаўленне сваёй дзяржаўнай улады (Декларация беларусской партии эсеров...: арк. 2–3).

Партыя беларускіх сацыялістаў-федэралістаў вырашэнне нацыянальнай праблемы беларускага народа бачыла ў яе нацыянальным самавызначэнні, найвышэйшым выражэннем якога павінна стаць суверэнная нацыянальная дзяржава. Сацыялісты-федэралісты знаходзіліся на пазіцыі супраць федэрацыі з Польшчай. Партыя беларускіх сацыялістаў-федэралістаў у снежні 1919 года падтрымала эсэраўскую ідэю аднаўлення поўнай незалежнасці і непадзельнасці БНР у яе этнаграфічных межах. Таксама як і беларускія эсэры, партыя беларускіх сацыялістаў-федэралістаў заклікала да склікання Усебеларускага працоўнага ўстаноўчага кангрэсу, на якім павінна было вырашыцца пытанне аб уладзе і беларускай нацыянальнай дзяржаўнасці.

Напрыканцы 1920 года рабіліся спробы аб'яднання нацыянальных сіл у агульнай барацьбе супраць савецкай улады. Так, напрыклад, 18 сакавіка 1920 года беларускія нацыянальныя арганізацыі і палітычныя партыі сабраліся на аб'яднанае пасяджэнне, на якім была вынесена пастанова падтрымліваць урад і Раду БНР у іх барацьбе за незалежнасць Беларусі. Беларусь павінна мець сваіх прадстаўнікоў на мірнай канферэнцыі паміж бальшавікамі, латышамі і палякамі, незалежна ад таго, будуць палякі і латышы весці гэтыя перамовы сумесна ці кожны паасобку, бо і ў тым, і ў другім выпадку, безумоўна, будуць закрануты беларускія інтарэсы. Прадстаўнікі Беларусі на канферэнцыю павінны быць прызначаны толькі Радай БНР, таму што ўсе іншыя прадстаўнікі, якія выступаюць ад імя Беларусі, будуць неправамоцнымі. Беларускія прадстаўнікі на мірных перамовах павінны мець паўнапраўны голас. Калі гэтыя ўмовы не будуць выкананы, а пры гэтым яшчэ будуць парушаны этнаграфічныя, гістарычныя і эканамічныя інтарэсы беларускага народа, то народ Беларусі вымушаны будзе аб'явіць рашучую барацьбу са сваімі праціўнікамі (Декларация беларусских общественных организаций...: арк. 123).

Мірныя перамовы, якія адбываліся з удзелам РСФСР і Польшчы ў Мінску і Рызе, не маглі не прыцягнуць увагі беларускіх палітыкаў. Заключэнне прэлімінарнага міру выклікала негатыўную рэакцыю з боку

лідараў беларускага нацыянальна-дэмакратычнага руху. 20 кастрычніка 1920 года на аб'яднанай нацыянальна-палітычнай канферэнцыі была выдадзена рэзалюцыя з патрабаваннем перагляду ўмоў прэлімінарнай мірнай дамовы, устанаўленне дзяржаўных беларуска-расійскіх і беларуска-польскіх межаў па этнаграфічным прынцыпе, патрабавалася таксама неўмяшальніцтва Расіі і Польшчы ва ўнутраныя беларускія справы (Архівы БНР: 919). Пасля падпісання Рыжскай мірнай дамовы большаць дзеячаў беларускага нацыянальнага руху выступала ў апазіцыі да ўлады Саветаў.

### *Бібліяграфія*

1. *Архівы БНР:* у 2-х кн. (1998). Т.1. Кн. 1–2. Беларускі Інстытут Навукі і Мастацтва: Вільня – Нью-Ёрк – Менск – Прага.

2. *Декларация белорусской партии эсеров по общему политическому и социальному положению Белоруссии на Варшавской конференции.* Дзяржаўны архіў Расійскай Федэрацыі (ДАРФ), Ф. 6218, воп. 1, с. 3, арк. 2–3.

3. *Декларация белорусских общественных организаций и политических партий по вопросу о мирных переговорах с большевиками.* Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь (НАРБ), Ф. 325, воп. 1, с. 106, арк. 123.

4. Ладысеў, Уладзімір і Брыгадзін, Пётр (1999). *На пераломе эпох: станаўленне беларускай дзяржаўнасці (1917–1920 гг.).* Мінск: БДУ.

5. *Материалы о белорусских политических партиях и группировках.* НАРБ, Ф. 60п, воп. 3, с. 766, арк. 5.